# ГЕРАІЧНАМУ ЧАСУ—ВЯЛІКУЮ ЛІТАРАТУРУ

## У НОВЫХ УМОВАХ

Два дні (30—31 студзеня) працягваўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Надзвычай важнае пытанне было вынесена на абмеркаванне яго — аб задачах пісьменніцкай арганізацыі ў сувязі з рашэннямі XXII з'езда КПСС. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў, дэлегат XXII з'езда КПСС Пятрусь Броўка ў сваім дакладзе падрабязна расказаў пра тыя задачы, што стаяць перад нашай беларускай літаратурай па выхаванню чалавека камуністычнага грамадства, па дапамозе нашай роднай камуністычнай партыі ў ажыццяўленні гістарычных рашэнняў XXII з'езда КПСС.

Партыя запісала ў сваёй Праграме: цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме, будзе карыстацца тымі матэрыяльнымі і духоўнымі здабыткамі, якія прынясе з сабою камунізм — самае дасканалае чалавечае грамадства.

«Складаная і вельмі адказная задача стаіць сёння перад кожным будаўніком камунізма, у тым ліку і перад кожным працаўніком літаратуры і мастацтва, — гаворыць дакладчык. — Але пасля XXII з'езда КПСС як ніколі вялізарныя нашы магчымасці, бязмежныя перспектывы, як ніколі мы маем поўную мажлівасць усім сваім розумам і сэрцам на ўсю сілу сказаць сваё слова аб нашым непаўторным часе, аб непаўторных яго героях, якія сваім розумам, сваімі рукамі ствараюць сапраўдны цуд на зямлі».

Час, калі ідзе ліквідацыя рэштак культу асобы, калі XXII з'езд развінуў прастору для сапраўднай натхнёнай творчасці ва ўсіх галінах нашага жыцця, тым і характэрны, што ўзняў творчыя сілы, даў магчымасць разгарнуць крылы ўсім працаўнікам грамадства. Мы з'яўляемся не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі таго грандыёзнага творчага працэсу, які адбываецца ў нашай краіне. Літаратура як адна з важнейшых галін ідэалогіі не можа, не мае права адставаць ад імклівага развіцця нашага грамадства, скіраванага ў камунізм. Пра гэта вельмі шчыра і падрабязна гаварылася на пленуме. Кожны з прамоўцаў падкрэсліваў, што цяпер для творчасці стварылася выключна спрыяльная атмасфера.

— XX і XXII з'езды нашай партыі, — гаворыць Аляксей Русецкі, — нанеслі знішчальны ўдар па культу асобы, які стрымліваў творчую і навуковую думку, затармозваў духоўнае развіццё нашага грамадства. Творчае вырашэнне нашай партыяй праблем жыцця з'яўляецца найвялікшым прыкладам таго, як трэба асэнсоўваць факты і з'явы жыцця ў святле нашай перспектывы, нашай будучыні. Многія з нас дажывуць да камунізма, і таму сёння ўсе нашы ўчынкі, наша жыццё мы павінны вымяраць па нормах камуністычнай маралі, якая патрабуе грамадскай прынцыповасці, чэснасці ва ўсім і ўсюды, па творчых адносінах да працы. І мы, пісьменнікі, павінны паказаць у сваіх творах гэта новае, камуністычнае стаўленне да працы, да выканання норм нашага сацыялістычнага грамадства.

Цяпер кожны пісьменнік, — зазначае А. Карпюк, — мае магчымасць пісаць праўдзіва, шчыра, не баючыся, што яго абвінавацяць ва ўсіх смертных грахах, як гэта было яшчэ не так даўно. Зусім іншая абстаноўка стварылася ў краіне, у самой партыі.

Павел Кавалёў гаворыць аб тым, што XXII з'езд партыі расчысціў дарогу для творчасці сатырыкаў і гумарыстаў. Таварыш М. С. Хрушчоў у сваіх прамовах неаднаразова падкрэсліваў неабходнасць сродкамі сатыры і гумару весці непрымірымую барацьбу супраць такіх перажыткаў капіталізму, як гультайства, дармаедства, п'янства і хуліганства. За апошнія гады створаны найлепшыя ўмовы для разгортвання крытыкі і самакрытыкі, для развіцця жанра сатыры і гумару. Даволі сказаць, што часопіс сатыры і гумару «Вожык» дасягнуў вялікага для нашых часопісаў тыражу — 50 тысяч экземпляраў. Пры часопісе выдаецца бібліятэчка «Вожыка» з шасці кніжак на год. Гэта стварае ўмовы для больш плённай работы пісьменнікаў у гэтым баявым, наступальным жанры. Тав. Кавалёў заклікае пісьменнікаў больш актыўна працаваць у жанры сатыры і гумару і тым самым памагаць партыі ў выкараненні са свядомасці людзей прыватнаўласніцкіх звычак, усяго таго, што супярэчыць маральнаму кодэксу савецкага чалавека, які вызначан Праграмай нашай партыі. Прамоўца ўносіць практычныя прапановы, накіраваныя на актывізацыю ў галіне сатырычнага жанра.

Духоўны свет савецкага чалавека становіцца ўсё больш шырокім, а гэта вымагае ад літаратуры глыбокага ўтаржэння ў працэсы самога жыцця.

— Мне недарэчнай здаецца, — гаворыць Васіль Барысенка, — тая дыскусія, якая не так даўно вялася на старонках друку пра «фізікаў» і «лірыкаў». Прагрэс нашай сучаснай навукі выклікае здзіўленне, і чым далей, ён яшчэ будзе большы. Але гэта ні ў якім разе не азначае, што гіганцкі тэхнічны прагрэс замінае развіццю духоўнага свету чалавека. Наадварот, тэхнічны прагрэс спрыяе яшчэ большаму ўздыму культуры, інтэлектуальнаму ўзбагачэнню чалавека, усебаковаму ўдасканаленню яго. І таму, як гэта было адзначана ў рашэннях XXII з'езда партыі, роля нашай літаратуры ў камуністычным выхаванні працоўных нязмерна ўзрасце. Але разам з тым узрастуць і патрабаванні не толькі да ідэйнай напоўненасці твораў, але і да іх мастацкай дасканаласці. Відавочна, што задачы пісьменнікаў з цягам часу будуць ускладняцца, бо літаратура наша павінна стаць самай дасканалай па майстэрству, па сваіх эстэтычных якасцях, і не можа быць ніякай спрэчкі паміж «фізікамі» і «лірыкамі».

Звяртаючыся да мінулага, Рыгор Няхай гаворыць аб тых цяжкіх умовах, у якіх даводзілася працаваць пісьменнікам у гады панавання культу асобы. Пісьменнік вымушан быў часам пісаць пра жыццё не так, як ён яго бачыў, а так, як яно ўяўлялася паводле некаторых тэорый, у прыватнасці, «тэорыі» бесканфліктнасці. Цяпер жа мы маем магчымасць і абавязаны пісаць праўду, не збядняючы і не прыхарошваючы самога жыцця. Яно само па сабе настолькі багатае, у ім столькі яркіх фарбаў, што, лёгшы на палітру мастацкага твора, яны дадуць такі твор, які будзе хваляваць чытача сваёй глыбокай праўдзівасцю, героі яго будуць вабіць, захапляць, клікаць наперад.

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ АДКАЗНАСЦЬ МАСТАКА

— Рэха XXII партыйнага з'езда ўзрушыла ўвесь свет, — пачынае сваю прамову Анатоль Вялюгін. — Праграма будаўніцтва камунізма, якую прыняла наша партыя, сапраўды грандыёзная не толькі па маштабах самой работы, але і па тым, што ўнясе ў нашы душы яе ажыццяўленне. І той, хто сёння бярэцца за пяро, каб пісаць пра нашую сучаснасць, павінен адчуваць найвялікшую адказнасць, бо ён піша для будаўнікоў і пра будаўнікоў новага чалавечага грамадства. Сапраўды, удумайцеся, таварышы: хутка наша Беларусь стане марской дзяржавай — праз яе будзе праходзіць водны шлях «з варагаў у грэкі». Як гэта грандыёзна, колькі гэта патрабуе ад нас, пісьменнікаў, энергіі, таленту для таго, каб не застацца ў даўгу перад нашымі сучаснікамі і перад нашымі нашчадкамі, якія будуць захапляцца гераізмам сённяшняга савецкага чалавека. Трэба, каб наша пісьменніцкае слова пра сваю эпоху было словам самага высокага гучання.

Сакратар Саюза пісьменнікаў СССР Вадзім Кажэўнікаў гаворыць падрабязна пра задачы савецкіх пісьменнікаў у будаўніцтве камуністычнага грамадства. Літаратура — гэта калектыўны наш вопыт, і мы павінны збіраць яго па крупінцы. І нам, пісьменнікам, таленавітым і менш таленавітым, належыць быць памочнікамі партыі ў вялікай справе фарміравання камуністычнай свядомасці чалавека. Гэта павінны рабіць мы, а не нейкі там будучы геній. Мы павінны ўзнімаць сваімі творамі савецкага чалавека на тую вышыню свядомасці, якая адпавядае сённяшняму ўзроўню будаўніцтва камуністычнага грамадства. Але для таго, каб гэта мы рабілі добра, мы самі павінны быць лепшымі. Калі мы сёння гаворым пра маральны кодэкс будаўнікоў камунізма, дык нашы сэрцы поўняцца захапленнем тымі рысамі, носьбітамі якіх павінен быць кожны чалавек. І калі кожны з нас адлюструе хоць бы некаторыя з гэтых рыс, увасобіць іх у характарах сваіх герояў, дык нашы творы будуць па-сапраўднаму сучасныя, цікавыя. Але для гэтага трэба ў першую чаргу выпрацаваць такія рысы ў самога сябе. Вось чаму кожны мастак павінен павышаць сваю камуністычную свядомасць, удасканальваць свой унутраны свет.

— Ваш пленум, — гаворыць далей В. Кажэўнікаў, — прысвечаны абмеркаванню важнейшага пытання, ён закліканы вызначыць шляхі рэалізацыі тых задач, якія паставіў перад савецкай літаратурай партыйны з'езд. XXII з'езд партыі з'яўляецца трыумфам новага курсу партыі, а прынятая на ім Праграма — вышэйшае дасягненне грамадскай навуковай думкі. У ёй увасоблены філасофскія, палітычныя, эканамічныя і маральныя асновы ўсеабдымнага плана будаўніцтва камунізма. Гераічная работа партыі і нашага народа паміж XX і XXII з'ездамі стварыла тыя матэрыяльныя і ідэалагічныя асновы, якія сталі непахіснай заканамернасцю для пераходу ў новы гістарычны перыяд, перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма. І гэты вялікі подзвіг партыі і народа трэба адлюстроўваць з гістарычнай праўдзівасцю. Вось чаму такая важная для нас сучаснасць, бо ў ёй усе тыя працэсы, якія далі магчымасць партыі, народу падысці да будаўніцтва камуністычнага грамадства.

У выступленнях таварышаў на пленуме многа і глыбока гаварылася аб адказнасці пісьменніка перад сваім часам, перад народам. Сапраўды, ва ўмовах той атмасферы, якая стварылася ў краіне пасля ліквідацыі культу асобы, калі наша партыя надае столькі ўвагі літаратуры, па-бацькоўску клапоціцца пра яе, мы не можам, мы не маем права не адказаць на гэтыя клопаты творчай актывізацыяй. Як адну з найважнейшых партыя паставіла задачу: глыбока і ўсебакова вывучаць і адлюстроўваць у мастацкіх творах нашу гераічную сучаснасць. Партыя назвала пісьменнікаў сваімі памочнікамі ў барацьбе за камунізм, яна ім адвяла вельмі вялікую ролю ў працэсе камуністычнага выхавання мас. Вось чаму пісьменнікі, выступаючы на пленуме, гаварылі не толькі пра тую добрую творчую атмасферу, якая стварылася ў краіне ў выніку ліквідацыі культу асобы, але і пра сваю адказнасць перад партыяй і народам, перад сваім часам, перад нашым выдатным чытачом, які хоча бачыць у творах літаратуры, як у добрым люстры, свае гераічныя справы, хоча бачыць, як у працэсе гіганцкай работы ствараецца чалавек будучыні з яго высокімі маральнымі і эстэтычнымі крытэрыямі і патрабаваннямі.

З гэтым звязана і глыбокае абмеркаванне ўдзельнікамі пленума разумення сучаснасці ў нашай літаратуры. Праблема сучаснасці разглядалася ў цеснай сувязі з патрабаваннем высокага майстэрства. І зусім слушна Алесь Адамовіч гаварыў пра тое, што мала яшчэ ўзяць самую сучасную тэму трэба яе глыбока, па-сучаснаму вырашыць.

Аналізуючы раман Уладзіміра Карпава «Вясеннія лівні», Алесь Адамовіч гаворыць, што ў гэтым рамане ёсць свае станоўчыя якасці, ва ўсякім разе ёсць добрыя намеры аўтара. Ёсць у ім пропаведзь новага, але чаго няма ў рамане, дык гэта ачышчальнай споведзі, няма сапраўднай поўнай радасці, няма сапраўднага болю. Раманы тыпу «Вясенніх лівянёў» — гэта ілюстрацыя, праўда, ускладнёная, але ўсё-такі ілюстрацыя таго, як трэба жыць, якімі павінны быць савецкія людзі. Няма ў ім менавіта таго, што магло б надаць сілу самой пропаведзі, надаць сучаснае гучанне раману: няма адчування таго, што чалавек піша пра людзей вытворчасці не таму, што не можа пра іх не пісаць.

Алесь Бачыла палемізуе з дакладчыкам у вызначэнні самога разумення сучаснасці. Некаторыя крытыкі ды і пісьменнікі разумеюць сучаснасць, як каляндарнасць, і гатовы нават падзеі ўчарашняга дня аднесці да мінулага. Мне здаецца, — гаворыць прамоўца, — сучаснасць твора трэба вызначаць тым, наколькі жыццёвы матэрыял дае магчымасць выказаць сучасныя думкі, ідэі, якія ў грамадстве выспелі крыху раней, у якіх, відаць, была свая перадгісторыя, якая таксама важна для пісьменніка, калі ён хоча напісаць твор аб'ёмны па думках, па мастацкаму ўвасабленню свайго часу, а не ілюстрацыйны, бо ілюстрацыйнасць у літаратуры такая ж шкодная, як і неканкрэтнасць у прапагандзе.

Калі галоўным аб'ектам мастацтва з'яўляецца чалавек, дык крытэрыем вартасці твора павінен быць створаны пісьменнікам характар. Без характараў няма мастацкага твора. Гэта адносіцца не толькі да вялікіх жанраў — рамана, аповесці, але і да апавядання і нарыса. Алесь Бачыла падрабязна спыняецца на жанры мастацкага нарыса, які чамусьці лічыцца пакуль што ў нас другараднай літаратурай. Нарыс, — гаворыць прамоўца, — гэта не адыходы матэрыялу ад буйнага твора, а жывы і паўнацэнны твор, найбольш прыдатная і аператыўная форма адлюстравання сучасных з'яў і падзей жыцця. Толькі трэба, каб самі пісьменнікі, наша крытыка, рэдакцыі больш уважліва і патрабавальна ставіліся да нарыса, тады ён зойме належнае месца ў літаратуры.

Часта можна пачуць шырока вядомае выказванне: сучаснасць — душа літаратуры, мяркуючы, што ўся сённяшняя літаратура павінна грунтавацца толькі на сучасным жыццёвым матэрыяле.

Аспрэчваючы гэтую думку, Ул. Юрэвіч спасылаецца на раман Івана Мележа «Людзі на балоце». Нягледзячы на тое, што гэты твор пра дваццатыя гады, мы яго сёння чытаем з захапленнем, бо ён хвалюе сваёй жыццёвай праўдай, глыбокімі абагульненнямі ў паказе таго, як у першыя паслярэвалюцыйныя гады палеская вёска станавілася пад сцягі савецкага жыцця. Або раман Алеся Адамовіча «Вайна пад стрэхамі». Ён самы сучасны па сваіх поглядах на вайну, на ўдзел у ёй народа.

Амаль у кожным выступленні на пленуме адчувалася глыбокая заклапочанасць тым, каб наша літаратура надалей развівалася як літаратура вялікай праўды жыцця. А для гэтага трэба, каб кожны пісьменнік адчуваў сваю найвялікшую адказнасць перад народам, перад партыяй, перад сваім сумленнем, бо ён стварае ідэалагічную зброю, якая павінна быць дзейснай у барацьбе за ажыццяўленне вялікіх ідэй камунізма.

## ПРА СУЧАСНАСЦЬ — ПА-СУЧАСНАМУ

Пісаць па-новаму! — гэтыя словы не адзін раз гучалі з трыбуны пленума.

— Мне вельмі спадабалася месца з даклада Петруся Броўкі, дзе ён гаварыў, што мы павінны працаваць па-новаму, — сказаў Ніл Гілевіч. — Лічу, што працаваць па-новаму — гэта значыць па-новаму пісаць, па-новаму думаць, адчуваць.

— У асноўным дакладзе галоўнай тэарэтычнай прадпасылкай з'яўляецца добрая думка, што арыентацыя на так званы сярэдні ўзровень не вельмі плённая, — адзначыў Алесь Адамовіч.

Як жа разумець гэты тэзіс — пісаць па-новаму?

А. Адамовіч прывёў словы Маякоўскага:

Я себя под Лениным чищу,  
Чтобы плыть в революцию  
дальше.

— Так, нельга быць сёння пісьменнікам, калі не чысціць сябе пад той ленінскай праўдай, якой вымяраецца і правяраецца ўсё пражытае, перажытае, сённяшняе і заўтрашняе, — працягвае А. Адамовіч. — Калі чалавек, калі пісьменнік хоць напалову застаўся ў дні ўчарашнім, калі не ўсімі думкамі сваімі ён прыняў тыя вялікія змены, што адбываюцца ў нашай рэчаіснасці, у творах яго зменіцца толькі дазіроўка праўды і няпраўды. І пра якія архісучасныя падзеі ён ні пісаў бы, твор не прагучыць па-сапраўднаму сучасна.

Пісаць па-сучаснаму — гэта значыць, перш за ўсё, пісаць з пачуццём асабістай адказнасці за ўсё, што адбываецца пры нас і што мы пакінем заўтрашнім людзям. Нельга вымяраць сваю пісьменніцкую задачу кан'юнктурай. Адказнасць на кожным з нас — перад стагоддзямі. Гучыць гэта можа і занадта ўзнёсла, але нельга быць сучасным у мастацтве без такой звышзадачы.

— У апошні час усё часцей і часцей вядзецца гаворка пра вобраз нашага сучасніка, пра рысы яго гераічнасці, — гаворыць А. Бачыла. — Галоўным чынам яна вядзецца ў плане заклікаў. Гераічнага патрабуюць акцёры, кінарэжысёры і іншыя дзеячы мастацтва. А што мы звычайна ўкладваем у паняцце — гераічнае? І як мы яго разумеем? Некаторыя разумеюць яго так, як разумелі пастаноўшчыкі фільма «Незабыўны 1919-ы». Разумеюць, значыцца, толькі паказны бок справы. У Германа Цітова няма знешне нічога гераічнага. А па складу душы, па фізічнай і маральнай загартоўцы, па інтэлекту — гэта герой нашага часу. Вось такі гераізм — не паказны, а гераізм інтэлекту, розуму, характару і павінны мы шукаць у нашых сучасніках.

Падрабязна спыняецца А. Бачыла на паказе ў літаратуры нашага побыту.

— Не ведаю, з чыёй лёгкай рукі, але ў апошні час не-не ды пачуеш зняважлівую рэпліку: «бытавізм»! Мне здаецца, падобная знявага да побыту крыху выхаласціла нашу прозу, паставіла яе ў асобных выпадках на рытарычныя хадулі. З гісторыі нашай літаратуры мы ведаем нямала імёнаў пісьменнікаў, якіх называлі бытапісальнікамі. Але яны не страцілі свайго значэння і сёння, бо іх творы могуць многае дадаць да нашага ўяўлення аб тых далёкіх ці недалёкіх часах. Быту ж нашага сучасніка мы так ярка не ўбачым у нашых творах. Чаму? Відаць таму, што мы не зусім правільна ўсведамляем сабе гэтую задачу.

Праграма пабудовы камунізма мае на мэце стварыць у краіне найлепшыя ўмовы жыцця і дабрабыту людзей. Які гэта дабрабыт? Мы павінны паказаць яго, бо з ім звязана і свядомасць чалавека, і выпрацоўка пэўных рысаў характару. Ва ўсякім разе, я за тое, каб наша літаратура папоўнілася сацыяльна-бытавымі і псіхалагічна-бытавымі раманамі, аповесцямі, п'есамі.

Гэтыя разважанні А. Бачылы аспрэчваў у сваім выступленні В. Кажэўнікаў.

— Не да бытапісальніцтва мы павінны заклікаць, а да вялікага эпасу аб вялікіх подзвігах нашага народа, — сказаў В. Кажэўнікаў. — Перад намі стаіць задача даць твор дасканалы і вялікі. Не кожны можа гэта зрабіць. Было б выдатна, калі б наша літаратура штогод давала тры вялікія творы, якія рухалі б уперад культуру чалавецтва. Але гэта працэс калектыўнай свядомасці, калектыўнай літаратурнай творчасці, бо іншы раз нават твор, у якім нямала буйных мастацкіх хібаў, недаробак, мае тое, на што можа абаперціся наступны мастак.

— Любая аднабаковасць у творах, што адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць, — працягвае В. Кажэўнікаў, — будзе толькі скажаць гістарычную праўду, змяншаць подзвіг нашага народа. Вялікі подзвіг партыі і народа, у адпаведнасці з гістарычнай праўдай, трэба паказваць у цэласнасці адзінага працэсу, адлюстроўваючы ўсе бакі жыцця нашага грамадства.

Якія ж выяўленчыя сродкі, якія формы і жанры найбольш адпавядаюць задачы стварэння мастацкага летапісу эпохі, у якую мы жывём?

— Неяк так сталася, — сказаў Уладзімір Юрэвіч, — што ўзнікла мода пісаць толькі дылогіі, трылогіі, тэтралогіі і нават шматтомныя цыклы раманаў. Нібыта змястоўнасць нашага часу можна вымяраць толькі лістажом. А мне здаецца, што такая пагоня за шматтомнымі, бясконца доўгімі раманамі сведчыць аб мастацкай бездапаможнасці некаторых аўтараў, аб іх разгубленасці перад сапраўды багатым матэрыялам небывала кіпучага жыцця ў наш час. Няўменне справіцца з гэтым матэрыялам, пагарда да законаў жанра і прыводзіць аўтараў на самую лёгкую сцежку — пісаць пульхныя таміны. А глянеш, дык адлюстраваных там думак і пачуццяў хапіла б хіба толькі на аповесць у чатыры-пяць аркушаў, а то і на звычайнае апавяданне.

Здавён беларуская літаратура славілася высокімі ўзорамі апавядання, кароткай аповесці — у прозе, лірычнага верша — у паэзіі. А што значнага ў жанры апавядання па ўзнятай надзённай праблеме, па грамадзянскай усхваляванасці можна назваць з апублікаванага летась?

Праблемам наватарства ў паэзіі прысвяціў сваё выступленне Аляксей Русецкі:

— Прыглядаючыся да праяў наватарства ў савецкай паэзіі, нельга не звярнуць увагі на той факт, што ў шмат якіх паэтаў усе намаганні накіраваны на ломку традыцыйных форм верша, хоць гэта не выклікаецца ўнутранай патрэбай, зместам твора. Захацеў паламаць радкі — і ломіць. Цяжкавата з рыфмамі — адкідае іх.

Працытаваўшы радкі з верша нашага сучасніка і радкі Тургенева з верша ў прозе «Камень», А. Русецкі адзначае, што ніякай фармальнай розніцы паміж гэтымі радкамі няма. Адно што — сучасны паэт напісаў свае радкі лесвічкай, а Тургенеў пісаў іх звычайна. Значыць, такое «наватарства» было вядома восемдзесят год назад!

— Іменна вершы ў прозе пішуць некаторыя паэты ў нас і вельмі многія паэты за мяжою, — гаворыць А. Русецкі. — Але паэзія траціць пры гэтым свае сродкі ўздзеяння на чытача, калі яна робіцца паэзіяй празаічнай. У адрозненне ад празаічнай, ёсць паэзія вершаваная, з такімі якасцямі, як выразны рытм, рыфма, сугучнасць. Яны ствараюць тэмперамент верша, яго інтанацыю. Вершаваная паэзія са сваімі выразнымі рытмамі будзе існаваць заўсёды, бо заўсёды будзе рытм сэрца, дыхання, рытм мора, дня і ночы.

Сапраўднае наватарства формы павінна абумоўлівацца глыбокім наватарствам зместу. Наватарства таго ці іншага паэта выспявае на глебе новай культуры, новых ведаў аб прыродзе, і ў сувязі з гэтым — новых вобразаў і асацыяцый, новых тэмпаў і рытмаў жыцця. Веды, вядома, не зробяць паэтам чалавека без таленту. Але веды паэта, яго змаганне за перадавыя ідэалы робяць яго сапраўдным наватарам.

Гэтую думку працягвае Аляксей Зарыцкі, калі гаворыць аб атрыбутах архаікі ў вершах некаторых беларускіх паэтаў.

— Паэты ў вершах п'юць толькі бярозавы сок, хваляць хату, дзе пахне смалою сасновых бярвенняў, — жартуе А. Зарыцкі. — А паспрабуйце таго ж паэта перасяліць у гэтую хату, ён вам такую заяву напіша!..

Размова аб майстэрстве закранула ўсе літаратурныя жанры. Дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» І. Дорскі расказаў аб захадах, якія робяцца студыяй, каб забяспечыць кінематаграфістаў добрымі літаратурнымі сцэнарыямі.

— Дзіву даешся, як падобны часам нашы героі адзін да аднаго ў сваім інтэлектуальным жыцці, як дакладна там вымераны іх фізічныя намаганні і як квола выглядае тое, што не паддаецца вымярэнню — праца іх розуму, імкненне іх душы, — сказаў Ул. Юрэвіч. — А што ў кнізе «Героі нашых дзён», выдадзенай нядаўна ў нас? Цішыня, спакой, самаздавальненне. А дакладчык на нашым пленуме адважваецца называць гэтую кнігу як вялікае дасягненне, як нейкі зрух у жанры нарыса. Зрух, але не наперад!

Высокая патрабавальнасць, з якой падыходзілі ўдзельнікі пленума да сваёй творчасці і творчасці сваіх таварышаў, сведчыць аб імкненні беларускіх пісьменнікаў пісаць сапраўды па-новаму — так, як таго патрабуюць высокія задачы, што стаяць перад савецкай літаратурай, так, як таго патрабуе галоўны герой і суддзя нашай літаратуры — народ.

## АБ'ЕКТЫЎНАСЦЬ, НАВУКОВАЯ ГЛЫБІНЯ, ПАТРАБАВАЛЬНАСЦЬ

Востра былі пастаўлены ў спрэчках на пленуме пытанні развіцця крытыкі і літаратуразнаўства.

— Развіццё мастацкай літаратуры, — сказаў В. Барысенка, — можа быць паспяховым толькі ў выпадку, калі паспяхова развіваецца крытыка. Крытыка, бадай што, больш за ўсё пацярпела ад культу асобы. Ва ўмовах, калі першае і апошняе слова ў пытаннях тэорыі меў права гаварыць толькі адзін чалавек, буйна расквітнелі ў нашай літаратурнай навуцы і дагматызм, і цытатніцтва, і алілуйшчына. Тэорыя адарвалася ад практыкі.

— Дагматызм крытыкі перыяду культу асобы, — зазначыў А. Бачыла, — выхаваў сярод чытачоў і гледачоў сваіх «артадоксаў» і часткова прыглушыў адчуванне прыгожага. Нараджаліся навуковыя працы, якія складаліся галоўным чынам з цытат, аўтары іх бралі на сябе ў лепшым выпадку задачу каментатараў. Рэгламентацыя думак і спосабу выказвання ў некаторых таварышаў даходзіла да таго, што нават і мову мастацкіх твораў яны правяралі па слоўніку, і калі траплялася слова, якога не было там, яго выпраўлялі. Усё гэта пакінула адбітак на мове нашай літаратуры.

Пра шкоднасць атмасферы культу асобы для развіцця крытыкі і літаратуразнаўства гаварыў Кандрат Крапіва. Ён падкрэсліў, аднак, што, крытыкуючы культ асобы, нельга ганіць агулам усё тое, што было зроблена раней. Змагаючыся за выкараненне рэштак культу асобы, той-сёй часам выстаўляе канцэпцыі, якія не зусім супадаюць з марксісцка-ленінскімі ацэнкамі грамадскіх працэсаў, у тым ліку і літаратурнага. Тут ёсць небяспека трапіць з адной вульгарызацыі ў другую.

— Патрэбна перш за ўсё, — падкрэсліў Кандрат Крапіва, — каб літаратуразнаўца рабіў свае вывады на падставе аналізу літаратурных фактаў, якія б разглядаліся ў цеснай сувязі з пэўнымі гістарычнымі ўмовамі.

Ілюструючы свае палажэнні, прамоўца закранае некаторыя канкрэтныя моманты вывучэння літаратурнага працэсу 20—30-х гадоў. На супастаўленні таго, што пісалася раней і пішацца цяпер пра творчасць М. Зарэцкага, ён паказвае шкоднасць адвольнай трактоўкі творчасці пісьменніка. М. Зарэцкі ішоў у літаратуру цяжкім шляхам, рабіў памылкі, пераадольваў іх і прыходзіў да правільнага разумення рэчаіснасці. Пры аналізе ж яго творчасці дапускаецца замоўчванне пэўных твораў і фактаў.

Кандрат Крапіва крытыкуе погляды, згодна з якімі ў літаратуры 20-х гадоў не было класавай барацьбы. Аб класавай барацьбе ў некаторых літаратуразнаўчых працах гаворыцца ў абстрактнай форме. А між тым у дваццатыя гады ў літаратуру прыйшло вельмі многа маладых пісьменнікаў з неўсталяваным светапоглядам, некаторыя не чыталі нават марксісцкай літаратуры. І зусім натуральна, што ў такіх маладых аўтараў маглі быць і пэўныя памылкі. Меўся пэўны ўплыў і нацыяналістычных канцэпцый. Мы гэта добра памятаем, — падкрэсліў Кандрат Крапіва. — Некаторыя з гэтых канцэпцый знайшлі сваё адлюстраванне і ў мастацкай творчасці, некаторыя — у крытычных артыкулах. Я памятаю гэты перыяд. Як жа мы можам спрашчаць гэты працэс і маляваць яго ідылічнымі фарбамі? Як наогул можна, каб літаратура, якая стваралася ва ўмовах класавай барацьбы, не насіла на сабе адбітку гэтай класавай барацьбы?

— Некаторыя таварышы, — працягваў Кандрат Крапіва, — узнімаюць пытанне перагляду нашых ацэнак літаратурнага працэсу і гавораць, што пра многія літаратурныя творы ў крытыцы няма пэўнай думкі. Сапраўды гэта мела месца. Узнімаюць і пытанне аб вывучэнні творчасці А. Паўловіча і А. Гаруна. А што вывучаць у А. Паўловіча — «Торбу ракаў»? Гэта не складае сур'ёзнай праблемы. Што ж датычыць А. Гаруна, то не трэба забываць, што ён па сваёй партыйнай прыналежнасці з'яўляўся эсэрам. Ён актыўна змагаўся супраць Савецкай улады, быў адным з арганізатараў на Беларусі белай арміі, якая існавала для таго, каб змагацца супраць Чырвонай Арміі.

Грунтоўны аналіз таго, што створана крытыкамі і літаратуразнаўцамі ў апошнія гады, зрабіў Ул. Юрэвіч.

— Крытыкі і літаратуразнаўцы, — сказаў ён, — правялі вялікую работу, каб пераадолець вульгарна-сацыялагічны падыход да з'яў літаратуры, рашуча парваць з дагматычным асвятленнем творчасці паасобных пісьменнікаў і цэлых перыядаў у літаратурным жыцці нашага народа, выкрыць заганнасць метадалогіі фармалізму і рашуча ўсталявацца на ясных ідэйна-творчых пазіцыях марксісцка-ленінскай літаратурнай навукі.

Станоўча ацэньваючы кнігі А. Адамовіча, Р. Бярозкіна, Н. Перкіна, Ю. Пшыркова, Ул. Калесніка і Ф. Куляшова, прамоўца падкрэсліў, што гэтыя кнігі прывабліваюць шырокага чытача навуковай дасведчанасцю аўтараў і грунтоўнасцю аналізу, у некаторых выпадках — арыгінальнасцю даследчай манеры, сакавітасцю і яркасцю мовы.

Ул. Юрэвіч крытыкуе тых, хто не заўважае ажыўлення на літаратурна-крытычным фронце і паўтарае адно і тое ж: крытыка нічога не робіць, крытыка адстае, крытыка не памагае. Дзіўна, — падкрэслівае прамоўца, — што гэта прагучала і на пленуме Саюза пісьменнікаў у Маскве з вуснаў І. Шамякіна, які сцвярджаў, што ў апошнія гады беларускія крытыкі і літаратуразнаўцы прарабілі толькі адну карысную работу — аднавілі імёны пісьменнікаў, якія нявінна пацярпелі ў свой час, і быццам бы гэта рабілася за кошт распрацоўкі надзённых праблем сучаснай літаратуры.

На справе ж, калі прагледзець, напрыклад, толькі тое, што пісалася пра творчасць І. Шамякіна, то стане відавочным, што такая катэгарычнасць сцвярджэнняў не адпавядае праўдзе. У апошні час выйшлі кнігі А. Адамовіча пра беларускі раман ад часоў яго ўзнікнення і да нашых дзён, дзве кнігі Р. Бярозкіна, якія даюць чытачу ўяўленне аб сучаснай беларускай паэзіі, манаграфіі К. Хромчанкі пра Піліпа Пестрыка, Ф. Куляшова пра Міхася Лынькова, даследаванне Ул. Няфёда пра сучасны беларускі тэатр. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР усё больш і больш пачынае жыць нашымі надзённымі клопатамі. Пра гэта сведчыць выпушчаны нядаўна інстытутам зборнік навуковых прац «Беларуская літаратура», дзе даследуюцца пераважна праблемы беларускай савецкай літаратуры.

Рашуча не згаджаючыся з адмаўленнем прыкметных зрухаў у галіне літаратуразнаўства і крытыкі, Ул. Юрэвіч гаворыць, што большую карысць прынесла б канкрэтная размова — што і чаму не задавальняе пісьменнікаў у той ці іншай літаратурна-крытычнай працы.

А падставы для таго, каб канкрэтна гаварыць пра недахопы нашай крытыкі і літаратуразнаўства ёсць. Пра гэта сведчылі ў першую чаргу выступленні на пленуме саміх жа крытыкаў і літаратуразнаўцаў.

Ул. Юрэвіч падкрэсліў, што мы не своечасова падтрымліваем творчыя пошукі мастакоў слова, скіраваныя на найбольш поўнае і яркае раскрыццё праз мастацкія вобразы непаўторнасці нашага часу. Нягледзячы на тое, што літаратурная навука ўсё больш звяртаецца да сучаснасці, мы ўсё ж пакуль не паспяваем ісці па гарачых слядах літаратурнага жыцця і абмінаем у сваіх працах многія з тых цяжкасцей, якія павінны пераадолець пісьменнікі ва ўсіх жанрах, каб утрымаць за сабой права называцца песнярамі сучаснасці.

Прамоўца слушна гаворыць пра неабходнасць чулай увагі крытыкі да кожнага добрага твора, што ў нас бывае не заўсёды. А трэба, каб крытыка заўважала кожны праблемны нарыс, кожнае таленавітае апавяданне, кожную аповесць, у якой багата думак і пачуццяў, уласцівых нашаму сучасніку, каб крытыка нарэшце падымала на шчыт кожны добры верш.

З думкай, выказанай І. Шамякіным на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, не пагаджаецца і А. Адамовіч. У сваім выступленні ён выказвае шэраг прынцыповых палажэнняў аб далейшым развіцці нашай эстэтычнай навукі.

Гавораць, зазначае прамоўца, што мала пішацца твораў пра сучаснасць, і ў гэтым, маўляў, вінаваты не хто іншы, як крытыкі. Давайце ўдакладнім — дрэнных ці добрых твораў? Што ж, калі сапраўды крытыка замінала з'яўленню твораў, якія толькі дыскрэдытуюць тэму, дык гэта ж заслуга яе. Бо і сапраўды: няма ў апошнія гады таго, каб з прывітальнымі прамовамі кідалася наша крытыка насустрач кожнаму твору, дзе ёсць сучасны матэрыял. Крытыка з парогу цікавіцца: матэрыял сучасны — вельмі добра, ну, а як з ідэяй — ці сучасная яна?

Няма і не можа быць гатовых рэцэптаў і адказаў на гэтае пытанне, падкрэслівае прамоўца. У кожнага на гэты конт свае думкі і меркаванні. І якія б яны ні былі суб'ектыўныя, і крытыцы і пісьменнікам варта, відаць, дзяліцца імі. Бо гэта пытанне, якое карціць кожнаму. Пра што б ні пісаў пісьменнік, ён жыве сённяшнім днём, марыць пра кнігу, у якой выкажа тое галоўнае, што звязвае яго са сваім часам.

Калі чалавек напісаў дрэнную або яўна шкодную кнігу — пра гэта трэба гаварыць прама і востра. Але трэба калектыўна абараняць і тыя здаровыя тэндэнцыі, якія ёсць у творы нашага таварыша. А гэтага мы яшчэ не ўмеем рабіць.

У нас не будзе вялікай літаратуры пра сучаснасць, напісанай на сучасным матэрыяле, пакуль будзе панаваць інерцыя перастрахоўкі ў свядомасці пішучых і пакуль мы не будзем па-сапраўднаму, як людзі адной партыйнай справы, падтрымліваць тых, хто ідзе наперадзе.

Істотным недахопам нашай крытыкі, на думку А. Бачылы, з'яўляецца тое, што некаторыя крытыкі і рэцэнзенты схільны толькі павучаць і не выхоўваюць у сабе навыкаў аналізу. А. Бачыла падкрэслівае неабходнасць для крытыкаў валодаць такім аналізам, пры якім твор мастацтва разглядаецца, зыходзячы з задумы яго аўта-

(Заканчэнне на 3-й стар.)

